# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№28 (2534)

10 ліпеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

МІНСКУ — 930 ГАДОЎ







З 3 да 6 ліпеня сёлета святкаваў Мінск дзень свайго нараджэння, а заадно і Дзень вызвалення ад фашысцкай навалы, і Дзень рэспублікі.

Фота Віктара СТАВЕРА.

ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

Надзея ВЫСОЦКАЯ:

## «МУЗЕІ Ў НАС ТРЫМАЮЦЦА ЗА КОШТ ТАЛЕНАВІТЫХ ЛЮДЗЕЙ»

**Надзея ВЫСОЦКАЯ — доктар мастацтвазнаўства, прафесар БДУ, загадчык аддзялення старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. А яшчэ яна вельмі любіць і добра ведае беларускую культуру, нашы музеі. Надзея Фёдараўна пагадзілася адказаць на пытанні карэспандэнта "Голасу Радзімы".**

***— Як сёння можна ахарактарызаваць стан, у якім апынуліся беларускія музеі?***

— Стан гэты дваісты. З аднаго боку, амаль ва ўсіх абласных цэнтрах музеі атрымалі памяшканні за кошт будынкаў, якія раней займалі абкомы і гаркомы партыі, пачалі ствараць цудоўныя экспазіцыі. Так атрымалася ў Магілёве, Гродне, Віцебску. Але гэта вельмі мала ў параўнанні з тым, што робіцца ў Расіі, дзе Эрмітажу і Рускаму музею перададзена велізарная колькасць першакласных палацаў, і цяпер там будзе паказана ўсё, што гадамі захоўвалася ў запасніках. Мы ж сёння маем магчымасць выставіць толькі тры працэнты з таго, што захоўваецца ў фондах музеяў нашай рэспублікі. Акрамя таго, усе нашы музеі створаны і развіваліся ў адным напрамку, і сёння як браты-блізняты падобныя адзін на аднаго. Варта было б падумаць аб тым, каб перапрафіліраваць іх і паказваць своеасаблівасць гістарычнага і культурнага развіцця кожнага рэгіёна. Мы сутыкаемся з тым, што ў нашай рэспубліцы фактычна нідзе пасапраўднаму не выстаўлена мануфактурная вытворчасць, у нас няма сур'ёзнай экспазіцыі слуцкіх паясоў, пружанскіх паясоў, карэліцкай мануфактуры і многага іншага.

***— У якім стане знаходзяцца тыя 97 працэнтаў экспанатаў, што захоўваюцца ў запасніках!***

— Іх стан вельмі плачэўны па той простай прычыне, што, на жаль, сапраўдных сховішчаў еўрапейскага ўзроўню ў рэспубліцы няма. Нам патрэбны кандыцыянеры, складаная рэстаўрацыйная служба, велізарны арсенал хімікаў, біёлагаў і многае іншае, прычым, на сапраўдным навуковым прафесійным узроўні. Нічога гэтага няма, а ёсць мізэрныя плошчы, неабсталяваныя запаснікі і цудоўныя супрацоўнікі — энтузіясты, на якіх часам усё і трымаецца.

***— Аднак у Расіі ўжо, мяркуючы па ўсім, зразумелі неабходнасць развіцця музейнай справы...***

— Так, Эрмітаж адрэстаўраваны фінамі, і там цяпер экспазіцыя зроблена на еўрапейскім узроўні. Тое ж самае можна сказаць аб Траццякоўскай галерэі. У новадзевічым манастыры былыя келлі абсталяваны немцамі па апошняму слову тэхнікі: усюды пастаўлены так званыя бяспыльныя вітрыны, куды не можа трапіць пыл, дзе створаны ўсе ўмовы для захавання экспанатаў, там зроблены асобныя пакоі для работы з кожным экспанатам, аснашчаныя электронным кантролем, які дазваляе вам працаваць у поўнай адзіноце. У Еўропе існуе індывідуальная ахова кожнага музейнага помніка, і ажыццяўляецца тэленагляд за ўсякім, хто ўваходзіць у памяшканне, але робіцца гэта далікатна і непрыкметна, так, каб вы маглі атрымліваць асалоду ад твораў мастацтва ў адзіноце, а не ў натоўпе экскурсіі.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

ПОСТАЦІ: АЛЯКСАНДР ХАЦКЕВІЧ

## ЧАЛАВЕК, ЯКОГА ВЕДАЛІ, ХВАЛІЛІ, ЛЮБІЛІ

**Леанід Лыч у артыкуле "Беларусізацыя: узлёт і праваЛ" (ГР., 1997, № 14—17) піша: "Практычна ўся работа па беларусізацыі была сканцэнтравана ў руках створанай у адпаведнасці з прынятай у 1924 годзе Прэзідыумам ЦВК БССР пастановай Камісіі па ажыццяўленню нацыянальнай палітыкі ЦВК БССР, на чале якой стаяў вядомы ў рэспубліцы дзяржаўны дзеяч А. Хацкевіч".**

**Пра гэтага таленавітага арганізатара гісторык Мікалай БАНДАРЭНКА падрыхтаваў нарыс, які прапануем чытачам "Голасу Радзімы".**

Аляксандр Хацкевіч нарадзіўся 28 студзеня 1895 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Навасёлкі Барысаўскага павета Мінскай губерні. Нялёгкі шлях давялося пераадолець Хацкевічу, перш чым дасягнуць палітычных вышыняў. У 1909 годзе ён скончыў сельскую школу і застаўся ў вёсцы працаваць на гаспадарцы. Але сям'я была бедная. Чатырнаццацігадовы падлетак адправіўся здабываць сабе долю. Працаваў на лесапільных заводах у Барысаве спачатку падсобным рабочым, потым на пілараме.

У 1915 годзе, у самы разгар першай сусветнай вайны, яго прызываюць у армію. Спярша юнак служыць радавым, а потым унтэр-афіцэрам тэлеграфнай роты Усць-Дзвінскага гарнізона.

**(Працяг на 5-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*ВІЗІТ ДЭЛЕГАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ САХА*



Цэлы шэраг пытанняў, што датычаць супрацоўніцтва Беларусі з Рэспублікай Саха (Якуція), быў абмеркаваны ў час сустрэчы Прэзідэнтаў Аляксандра Лукашэнкі і Міхаіла Нікалаева. Яна адбылася 1 ліпеня ў Адміністрацыі кіраўніка нашай дзяржавы.

Як заявіў Аляксандр Лукашэнка, Беларусь мае намер не толькі абмеркаваць кола праблем, якія вызначаюць двухбаковае супрацоўніцтва, але і па меры магчымасці вырашыць іх. Паводле яго слоў, рэспубліка гатова пайсці на неабходныя ўступкі, каб актывізаваць пастаўкі беларускай прадукцыі ў Якуцію.

Акрамя таго, Беларусь гатова да стварэння сумесных прадпрыемстваў. Выкарыстоўваючы сыравінную базу Рэспублікі Саха і прамысловы патэнцыял Беларусі, яны маглі б выпрацоўваць канкурэнтаздольную прадукцыю.

У час сустрэчы з прадстаўнікамі Рэспублікі Саха Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што іх візіт у Беларусь "для Якуціі будзе адчувальным, паколькі Беларусь гатова да рэалізацыі ўсіх раней дасягнутых дагавораннасцей".

НА ЗДЫМКУ: сустрэча двух Прэзідэнтаў.

*УЛАДА*

## ПОЎНАЕ АДЗІНСТВА

Адказваючы на пытанні журналістаў пасля заканчэння другой сесіі Палаты прадстаўнікоў, яе старшыня Анатоль Малафееў выказаў свой погляд на ўзаемаадносіны заканадаўчай і выканаўчай улады.

Так, на пытанне, ці не баіцца цяперашні лідэр паўтарыць шлях сваіх папярэднікаў на гэтай пасадзе — Мечаслава Грыба і Сямёна Шарэцкага, якія спачатку супрацоўнічалі з Прэзідэнтам, а затым пайшлі ў жорсткую апазіцыю, А. Малафееў заявіў: "Я нічога не баюся, я прайшоў гэтыя школы. Я нікому не служу — я служу толькі свайму народу, сваёй Айчыне. І імкнуся зрабіць усё для выхаду краіны з гэтага цяжкага эканамічнага стану. І мы з Прэзідэнтам у гэтым плане канструктыўна супрацоўнічаем. Калі нашы пункты гледжання разыдуцца — мы разыдземся. Аднак, я думаю, такі парламент, які процістаіць Прэзідэнту, нам не патрэбны: ён будзе дэстабілізаваць сітуацыю".

*ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА*

## НОВЫМ ПАСЛОМ ЗША Ў БЕЛАРУСІ СТАНЕ ДЭНІЭЛ СПЕКХАРД

Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан назначыў новым амерыканскім паслом у нашай дзяржаве кадравага дыпламата Дэніэла Спекхарда. Аб гэтым паведамляецца ў распаўсюджанай заяве Белага дома.

Згодна з інфармацыяй, што паступіла ў БЕЛТА, 38-гадовы Дэніэл Спекхард працуе ў знешнепалітычным ведамстве Злучаных Штатаў з 1990 года і да гэтага часу быў намеснікам пасла па асобых даручэннях па новых незалежных дзяржавах. Жанаты, мае траіх дзяцей. Валодае рускай мовай.

Згодна з існуючай у ЗША сістэмай назначэння дыпламатаў на такія пасады, калі кандыдатура Дэніэла Спекхарда будзе адобрана сенатам, то ён зменіць на пасадзе Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Злучаных Штатаў у нашай рэспубліцы Кенета Ялавіца, тэрмін знаходжання якога на гэтай пасадзе заканчваецца.

## КІТАЙСКІ ПАСОЛ НАВЕДАЎ БАРАНАВІЧЫ

**По ініцыятыве Баранавіцкага грамадска-эканамічнага і гістарычнага клуба, падтрыманай мясцовымі ўладамі, горад наведаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у нашай краіне Чжао Сідзі.**

**Тут ён выступіў перад кіраўнікамі прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў і прадстаўнікамі грамадскасці з лекцыяй "Кітай сёння".**

*"За пяць месяцаў гэтага года ў краіне зарэгістравана 54 476 злачынстваў, што на 3 174 больш, чым за аналагічны перыяд года мінулага. Прычым вельмі непакоіць нас, што на 1 138 узрасла колькасць цяжкіх злачынстваў, у тым ліку на 72 — колькасць наўмысных забойстваў, — на 74 — наўмысных цяжкіх цялесных пашкоджанняў, на 22 — згвалтаванняў. Праўда, варта адзначыць, што ў гэтым годзе палепшылася раскрывальнасць злачынстваў.*

*Аднак гэта не вельмі суцяшае на фоне росту злачыннасці. На маю думку, неабходна тэрмінова прыняць шэраг кардынальных мераў па прафілактыцы злачыннасці. Аналіз пракурорскай і судовай практыкі сведчыць, што грамадства амаль не займаецца папярэджваннем злачыннасці сярод непаўналетніх. Падлеткі выцясняюцца з клубаў, спартыўных секцый, гурткоў, прадпрыемствы не бяруць іх на работу. Рэзка зніжаецца ўзровень духоўнага, інтэлектуальнага і культурнага выхавання. Не выпадкова, што па каэфіцыенту злачыннасці сярод непаўналетніх у разліку на 10 тысяч падлеткаў Беларусь займае другое месца пасля Расіі, значна апярэджваючы ў гэтым сумным рэйтынгу іншыя дзяржавы СНД".*

*(З інтэрв'ю А. БАЖЭЛКІ, Генеральнага пракурора Беларусі газеце "Звязда").*

*ПА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ПРАГРАМЕ*



Па Чарнобыльскай праграме ўводзіцца ў эксплуатацыю дзіцячы сад у вёсцы Хальч Веткаўскага раёна. Будаўнікі ПМК-94 "Гомельаблсельбуда" ўжо заканчваюць тут аддзелачныя работы, а на пачатку ліпеня ўстанова, разлічаная на 90 месцаў, прыме дзяцей.

НА ЗДЫМКУ: рыхтуецца да здачы новы дзіцячы сад.

*ПРЫЗ І ДЫПЛОМ*

## «КУПАЛАЎЦЫ» Ў МАСКВЕ

У Маскве адбыўся міжнародны фестываль камерных спектакляў "Славянскі вянец".

Як стала вядома, прыз і дыплом за лепшую рэжысуру атрымалі па ім спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Крывавая Мэры", пастаўлены акцёрам гэтага тэатра Аляксандрам Гарцуевым. Сімпатыі гледачоў заваявала і выканаўца адной з галоўных роляў заслужаная артыстка рэспублікі Зоя Белахвосцік. І журы фестывалю, якое ўзначаліў вядомы тэатральны і літаратурны крытык Леў Аненскі, было ў захапленні ад яе ігры.

*ФЕСТЫВАЛЬ У ЛІДЗЕ*



Першы рэспубліканскі фестываль ансамбляў песні і танца адбыўся ў горадзе Лідзе. Фестываль сабраў калектывы танцавальнага і песеннага жанру з усіх рэгіёнаў Беларусі. Творчая біяграфія многіх з іх перасягнула трыццацігадовы і нават саракагадовы рубеж. І таму не выпадковы поспех старэйшых у рэспубліцы калектываў — гродзенскага ансамбля "Нёман", маладзечанскага "Спадчына", ансамбля імя Агінскага са Смаргоні. Поспех спадарожнічаў і народным ансамблям песні і танца "Лідчанка" і "Яблынька" з Гарадка Віцебскай вобласці.

У час фестывалю была праведзена творчая лабараторыя, дзе кіраўнікі калектываў, вядомыя хармайстры і балетмайстры абмяняліся вопытам работы і наметілі далейшыя шляхі развіцця жанру. Перад жыхарамі Ліды і ўдзельнікамі фестывалю выступіў ганаровы госць свята Дзяржаўны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча.

Два дні на сцэнічных пляцоўках горада і раёна гучала музыка, народныя песні. Ад сэрца да сэрца перадаваліся напевы беларускай зямлі.

НА ЗДЫМКУ: выступае ансамбль "Яблынька" з Гарадка Віцебскай вобласці.

*ПАСЛЯ ЎРАГАНУ*

## СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА

У выніку ўрагану, які пранёсся над тэрыторыяй Мінскай і Брэсцкай абласцей, пацярпелі 695 населеных пунктаў, 122 759 гектараў пасеваў, разбурана 208 вытворчых памяшканняў і 376 жылых дамоў; пашкоджана адпаведна 1 959 і 7 200.

* * *

Арыенціровачна каля 5,5 мільярда рублёў стратаў нанёс ураган дарогам рэспубліканскага значэння і розным прыдарожным збудаванням Брэсцкай і Мінскай абласцей.

Як паведамілі ў Камітэце па аўтамабільных дарогах Міністэрства транспарту і камунікацый, каля 7 тысяч дрэў давялося прыбраць з праезджай часткі спецыяльным атрадам адразу ж пасля стыхіі, каб забяспечыць бяспеку руху транспарту. У наступныя дні працягваліся работы па іх вывазу ўжо з паласы адводу і адхонаў.

* * *

Ураган, што пранёсся над абласцямі Беларусі, забраў жыцці пецярых чалавек.

Паводле даных Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, 23 чэрвеня загінула тры чалавекі. Затым 25 чэрвеня ў Капыльскай цэнтральнай раённай бальніцы ад атрыманых траўм памёр 60-гадовы Уладзімір Місючэнка, жыхар вёскі Доктаравічы Капыльскага раёна. У той жа дзень у абласной бальніцы памёр 17-гадовы Саша Бруцкі з пасёлка Ратамка, што пад Мінскам.

*З БЕЛАРУСКАГА ЛЁНУ*

Больш як 30 назваў вырабаў з лёну і столькі ж з саломкі штомесяц выпрацоўваюць на Магілёўскай фабрыцы мастацкіх вырабаў. Прычым, асартымент абнаўляецца штомесяц. Прадукцыя магілёўчан пастаўляецца ў Германію, Францыю, ЗША і іншыя краіны далёкага і блізкага замежжа. І ўсюды карыстаецца нязменным поспехам.



НА ЗДЫМКУ: на ўчастку па выпуску вырабаў з саломкі. На пярэднім плане — майстар па выпрабу сувеніраў Марына СУШКО.

## МІРОНІМ, ВЁСАЧКА МАЯ







**Старадаўняя вёска Міронім — ускраінная ў Івацэвіцкім раёне, за кіламетр ад яе ўжо пачынаецца Гродзеншчына. Цяпер тут 200 двароў і ўсяго крыху больш як дзвесце жыхароў. Справа ў тым, што ад Міроніма да Слоніма ўсяго пятнаццаць кіламетраў — вось і паехала моладзь працаваць у горад. У выхадныя, праўда, прыязджаюць дапамагаць бацькам апрацоўваць агароды, пасвіць жывёлу. Апошнім часам некаторыя маладыя людзі пачалі будаваць жыллё і працаваць у мясцовым калгасе "Быценьскі", на цагельным заводзе, што недалёка ад вёскі.**

**Народ у Міроніме працавіты: хто сталярнічае, слясарнічае, трымаюць на падвор'і жывёлу. Каб яшчэ пабудаваць тут добры магазін, адрамантаваць школу, наладзіць сувязь, то і пацягнулася б моладзь сюды больш актыўна. Можа тады і не знікне з аблічча зямлі шматвяковы Міронім.**

**НА ЗДЫМКАХ: такое жыллё ў Міроніме будуе сабе рабочы цагельнага завода Іван СЯЛЕДЧЫК; Уладзімір МАНЬКОЎСКІ працаваў у мясцовым калгасе на розных пасадах, апошнія трыццаць гадоў да выхаду на пенсію — на ферме, даглядаў бычкоў. Тры гады назад купіў жарабя, з якога выгадаваў кабылу Алёнушку — верную памочніцу пры апрацоўцы агарода, нарыхтоўцы сена, дроў; Наташа і Каця БІЕНКА жывуць з мамай і татам у Бярозе, а лета праводзяць у бабулі ў Міроніме.**

## З ЛІТВЫ

# ДЗЕЦІ КЛАПОЦЯЦЦА ПРА СТАРЫХ

У нашай беларускай школе імя Ф. Скарыны стала ўжо добрай традыцыяй перад заканчэннем навучальнага года наведваць інтэрнат, дзе жывуць хворыя і старыя людзі. Вось і цяпер у пачатку чэрвеня каля 30 вучняў ад 5 па 8 клас прыехалі ў Антавіляй пад Вільню, дзе сустрэліся з жыхарамі інтэрната, у якім знайшлі свой апошні прытулак людзі розных нацыянальнасцей, розных прафесій, розных лёсаў. У вялікую залу сабраліся тыя, хто змог прыйсці ці прыехаць на калясцы, каго прывялі сябры і медсёстры (большасць жыхароў прыкаваны да ложкаў), каб паслухаць цудоўныя беларускія і літоўскія песні, вершы і ігру на музычных інструментах. Слухачы былі ўзрушаны выкананнем і майстэрствам дзяцей і кожны нумар сустракалі гучнымі воплескамі. Канцэрт быў падрыхтаваны настаўніцай музыкі і спеваў Валянцінай Кавальчук, якая і вяла музычнае суправаджэнне кожнага нумара на акардэоне.

А потым, таксама па традыцыі, вучні пайшлі на мясцовыя могілкі, дзе інтэрнат хавае сваіх памерлых старых, якіх штогод адыходзіць у іншы свет каля 50 чалавек.

Вучні даведаліся, што інтэрнат хавае тут тых, хто не меў сваякоў, хто дажываў свой век у адзіноце, але нямала хаваюць і тых, на вяліікі смутак і жаль, ад каго адракліся сваякі, дзеці і ўнукі, узгадаваныя імі. Лёс гэтых людзей вельмі страшны. Усе ж яны мелі працу, жыллё, сем'і, сяброў, а на старасці гадоў ад іх пазбавіліся родныя, як ад нейкіх непатрэбных рэчаў, некаторыя былі ашуканы сваімі дзецьмі-прайдзісветамі, якія захапілі кватэры бацькоў, а іх выкінулі на вуліцу, і толькі грамадскасць іх уладкавала ў інтэрнат.

Усім убачаным і пачутым нашы дзеці былі ўзрушаны. Усе магілкі былі прыбраны: вырвалі пустазелле, падраўнялі рыдлёўкамі магілы і пасадзілі кветкі, якія прывезлі са школы. Працавалі шчыра і моўчкі. І калі на развітанне сястра-гаспадыня дзякавала вучням за працу і ўвагу, дзеці абяцалі прыязджаць сюды і надалей і гаварылі, што ніколі не зробяць так са сваімі матулямі і татулямі.

Якія яны былі прыгожыя ў гэты момант і шчырыя. І як хочацца верыць іх словам. Дай Божа, каб так і сталася ў іхнім жыцці!

**П. САЎЧАНКА,**
**настаўнік школы імя Ф. Скарыны.**

г. Вільня.

## З ЧАРНОБЫЛЬСКАГА СШЫТКА

# ПАХАВАННЕ ВЁСКІ

З МАЁРАМ Іванам Краўцовым я пазнаёміўся ў брагінскай раённай бібліятэцы. Яго, камандзіра падраздзялення хімічных войск, прыслалі на Брагіншчыну праводзіць дэзактывацыю пасля выбуху на ЧАЭС.

Жыў Краўцоў у гасцініцы і ў вольны ад службы час наведваў бібліятэку.

У тую нядзелю ён з'явіўся ў чытальнай зале рана, сеў за стол і пачаў праглядаць свежыя часопісы і газеты. Часам ён адрываўся ад перыёдыкі і задумліва глядзеў у акно.

— Не чытаецца, Данілавіч? — спытаў я.

— Ага, — уздыхнуў маёр.

— Нешта, відаць, трывожыць?

— Трывожыць пахаванне.

— Якое? — насцярожыўся я.

— Нехта з радні памёр?

— Ды не. Не чалавека будзем хаваць, а вёску. У зямлю закопваць, — цяжка адказаў ён і зноў задумаўся. А праз хвіліну: — Ужо не адну такую закапалі ў раёне. Страшная работа:.. І небяспечная: дазіметр аж зашкальвае... Радыенукліды з пылам лезуць у нос, у вочы, у вушы... Свету белага не відаць. Надыхаешся — у горле пяршыць... кашаль рве грудзі...

— Вазьміце мяне з сабою, — папрасіў я Краўцова. — Напішу карэспандэнцыю пра пахаванне вёскі. І вас, ліквідатараў, добрым словам спамяну.

Ён згадзіўся. І назаўтра заехаў у рэдакцыю раённай газеты "Маяк Палесся", дзе я тады працаваў. Ужо ў машыне падаў мне камбінезон, рэспіратар, пылаахоўныя акуляры.

— Каб менш радыенуклідаў схапіў, — растлумачыў.

Вёска, куды мы прыехалі, была маленькая, хат на дзесяць. Там, дзе была вуліца, зеўраў глыбокі, загадзя выкапаны экскаватарамі роў. Каля яго, каля сваёй магілы, маўкліва стаялі хаты-нябожчыцы: старэнькія, трухлявыя і цагляныя, пад шыферам.

Быў пачатак мая. Вёска патанала ў садовай квецені, нібы кіпелі бела-ружовым цветам яблыні. Цвілі апошні раз. Яны, здавалася, адчувалі сваю хуткую пагібель і апрануліся ў квяцістыя сукенкі, каб перад смерцю адкрасавацца, назаўсёды развітацца з роднаю вёскаю — сады таксама, як і хаты, вось-вось бульдозеры ссунуць у роў, загорнуць сырою зямлёю.

У выселенай, мёртвай вёсцы нас сустрэлі салдаты. Павітаўшыся, Краўцоў ні то сказаў, ні то загадаў ім:

— Пачнем, хлопцы. Пераапранайцеся — і за работу.

Пераапрануўся, вядома, і я разам з маёрам.

І неўзабаве зараўлі, застагналі матары бульдозераў. Пачуўся сухі трэск платоў, задрыжэлі, здаваліся, ад страху і болю яблыні. Яны пачалі пад сталёвымі нажамі хіліцца на зямлю.

Дрэвы адразу завалакло цёмным пылам. Квецень на іх пачарнела, нібы яблыні ў апошні момант перад смерцю пераапрануліся з квяцістых у чорныя жалобныя сукенкі.

Перавёў позірк на хату, каля якой стаяў. На высокай цыбатай стрэле гусенічнага крана на тросе вісела вялізная жалезная "баба". Кран загрукацеў, крануўся з месца, падсунуўся да хаты. "Баба" падцягнулася ўгару і, сарваўшыся з вышыні, раптам звалілася на дах. Пачуўся скрыгат, трэск; хата пачала асядаць на зямлю, і з вокнаў выкаціліся клубы чорнага пылу; цёмная яго хмара ахутала мяне з ног да галавы. І я ўжо нічога праз акуляры не бачыў, нібы на зямлю апусцілася ноч, толькі праз пыл ледзь прасвечвалася касматае сонца.

І ад пылу, і ад жудасці перацiснула горла, заняло дух. Я сарваў з твару рэспіратар і кінуўся прэч. Спыніўся на водшыбе вёскі. І азірнуўся. Там, дзе былі хаты, стаяла чорная хмара, у якой цьмяна мігцелі, снавалі светлякамі фары бульдозераў.

Праз нейкі час, калі над наваколлем завісла цішыня, калі асеў пыл, я не ўбачыў ні хат, ні платоў, ні садоў. Толькі над ровам чарнела свежая зямля, з якой, нібы косці, тырчэлі патрушчаныя галіны яблынь.

І раптам з-пад маіх ног выпырхнуў і пацягнуў па нітцы ў неба залівісты галасок жаўрук. Ён спыніўся над маёй галавой, жалобна і доўга вёў сваю песню, нібы адпяваў пахавальную малітву па вёсцы, якая знікла з роднай зямлі.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

**Цэлыя вёскі з дамамі і знаёмымі з дзяцінства вуліцамі, садамі і калодзежамі пахаваў на Беларусі Чарнобыль. Дзесяткі населеных пунктаў зніклі з карты рэспублікі ў мірны час. Не стала ў Чэрыкаўскім раёне і вялікай вёскі Камаровічы. Сцерлі яе з зямлі прыгнаныя чарнобыльскімі вятрамі бульдозеры.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**



*ПАСЛЯ ПАДЗЕІ*

# СУПРАЦОЎНІЦТВА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Звыш ста навукоўцаў, спецыялістаў у галіне адукацыі і культуры прынялі ўдзел у рабоце міжнароднай навуковай канферэнцыі "Культура беларуска-польска-літоўскага сумежжа". Пачала сваю работу канферэнцыя на беларускай зямлі, у Гродне, а завяршылася ў сталіцы Літоўскай Рэспублікі г. Вільнюсе. Акрамя вядомых навукоўцаў з Беларусі, Літвы, Польшчы, ФРГ, Расіі, Латвіі, Украіны, у канферэнцыі ўдзельнічалі кіраўнікі шэрагу міністэрстваў і дэпартаментаў Літвы і Беларусі, а таксама генеральныя консулы Рэспублікі Беларусь у Беластоку М. Слямнёў і Рэспублікі Польшчы ў Гродне М. Машкевіч. Арганізатарамі гэтага прадстаўнічага форуму выступілі як недзяржаўныя арганізацыі — Міжнародная акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей і Брэсцкая аб'яднаная рэгіянальная арганізацыя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", так і дзяржаўныя ўстановы — Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур і Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, Дэпартамент рэгіянальных праблем і нацыянальных меншасцей пры ўрадзе Літоўскай Рэспублікі. І, варта зазначыць, гэта супрацоўніцтва аказалася плённым. На агульную думку ўдзельнікаў, канферэнцыя дасягнула галоўнай мэты: садзейнічала ўзнаўленню парушаных у выніку распаду СССР культурых і навуковых сувязяў паміж Літвой і Беларуссю і ўмацаванню творчых кантактаў з нашай заходняй суседкай — Польшчай.

Безумоўна, поспеху канферэнцыі садзейнічаў не толькі ўдзел вядомых навукоўцаў, але і ўсебаковасць разгляду міжкультурных узаемадачыненняў нашых народаў. Плённай у гэтым плане аказалася работа секцыі гісторыі. Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Э. Зайкоўскі прывёў шматлікія доказы сакральнага характару рэк беларуска-літоўскага памежжа — Віліі і Вільні. На думку даследчыка, у жыцці старажытных славян і балтаў гэтыя рэкі адыгрывалі такую ж свяшчэнную ролю, як Інд і Ганг у індусаў. Розныя меркаванні выказваліся даследчыкамі і адносна ролі балцкага субстрата ў этнагенезе беларусаў і фарміраванні беларускай культуры. Прапановы некаторых літоўскіх навукоўцаў разглядаць беларускае насельніцтва віленскага краю і памежных "старакаталіцкіх" раёнаў Гродзенскай, Мінскай і Віцебскай абласцей як абеларушчаных у свой час этнічных літоўцаў сустрэліся з крытычнымі заўвагамі з беларускага боку. На думку апошніх, у даным выпадку мае месца скажэнне паняццяў "Літва этнічная" і "Літва гістарычная", некрытычнае атаясамленне якіх нярэдка вядзе да палітызацыі зазначанай навуковай праблемы, чаго неабходна пазбягаць.

На недастаткова вывучаныя старонкі гісторыі нашай айчыннай культуры звярнуў увагу вядомы польскі даследчык з універсітэта М. Капэрніка ў г. Торуні прафесар С. Александровіч. Дэталёва прааналізаваўшы паходжанне сярэдневяковых геаграфічных карт, ён прыйшоў да высновы, што многія з іх друкаваліся на Беларусі. У часы Мікалая Крыштофа Радзівіла (Сіроткі) (1549—1616 гады) менавіта Нясвіж стаў сапраўднай картаграфічнай сталіцай Усходняй Еўропы.

Спробу прасачыць тысячагадовую традыцыю аўтакефаліі праваслаўнай царквы на Беларусі зрабіў у сваім дакладзе прафесар Беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта А. Міранoвіч. На ягоную думку, гэта традыцыя ўзыходзіць яшчэ да 992 года, калі была заснавана першая на беларускай зямлі Полацкая епархія. Страта ж аўтаноміі праваслаўнай царквы на Беларусі адбылася ў XVII стагоддзі, калі ў выніку дэкрэта караля Уладзіслава IV праваслаўная царква страціла ў 1635 годзе Полацкае, Брэсцкае і Турава-Пінскае епіскапствы на карысць уніятаў. У 1656 годзе разам з адыходам смаленскай зямлі да Масквы было страчана Смаленскае епіскапства. У выніку праваслаўная царква на беларускіх землях апынулася ў падпарадкаванні кіеўскіх мітрапалітаў... У нашым стагоддзі няўдалыя спробы аднаўлення беларускай аўтакефальнай царквы рабіліся ў 1927 годзе мітрапалітам Мельхіседэкам і ў 1942 годзе на Агульнабеларускім праваслаўным саборы. З 1948 года беларуская аўтакефальная праваслаўная царква дзейнічае на эміграцыі. Ці адновіцца яна ў Рэспубліцы Беларусь? Залежыць гэта ад многіх фактараў: ад волі вернікаў, ад арыентацыі беларускага праваслаўнага духавенства, ад палітыкі беларускай дзяржавы.

Усебаковасцю разгляду выдзяляліся і даклады, прысвечаныя міжкультурнаму ўзаемадзеянню народаў беларуска-польска-літоўскага сумежжа ў цяперашні час. Так, доктар эканамічных навук прафесар А. Ракаў з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прысвяціў свой даклад этна-дэмаграфічным праблемам рэгіёна, доктар гуманітарных навук Б. Нікіфарава (г. Вільнюс) акцентавала ўвагу на культурна-псіхалагічным аспекце праблемы, а доктар сацыялагічных навук прафесар А. Ляўко з Нацыянальнага інстытута адукацыі Беларусі — на адлюстраванні спецыфікі культуры памежнага рэгіёна ў асабістых якасцях яго жыхароў. Разнастайныя праблемы дыялагічнасці культур народаў памежжа знайшлі адлюстраванне ў дакладах дактароў навук, прафесараў М. Слямнёва (г. Беласток), У. Розенфельда (г. Гродна), С. Яцкевіча (г. Брэст), дактароў навук В. Оргіша (г. Мінск), Б. Бартца (г. Дуйсбург), В. Озаліні (г. Даўгаўпілс) і інш. Выканаўчы сакратар Беларуска-індзейскага таварыства А. Сімакоў (г. Гомель) у сваім дакладзе "Індзейскія культурныя элементы на беларуска-польскай этнічнай мяжы" параўнаў апошнюю з "індзейскай сцежкай" да Беларусі, праз якую ў нашу краіну з Амерыкі пранікалі культурныя расліны і жывёлы, сюжэты для твораў літаратуры і мастацтва і іншыя атрыбуты матэрыяльнай і духоўнай культуры індзейцаў Амерыкі.

Спроба глянуць на культуру сучаснай Літвы вачыма беларусаў была зроблена навукоўцамі Гродзенскага універсітэта. Як паказала праведзенае імі даследаванне, на ўспрыняцце культуры суседняга народа ў вызначальнай ступені ўплывае культурны ўзровень самога перцыпіента, ступень авалодання ім культурай і мовай уласнага народа. Так, беларускамоўныя рэспандэнты ў сваёй большасці адзначаюць такія рысы літоўцаў, як ветлівасць, добразычлівасць, акуратнасць. У той жа час рускамоўныя беларусы фіксуюць такія якасці, як некамунікабельнасць, стрыманасць; для некаторых з іх літоўцы — гэта перш за ўсё "нацыяналісты", якія першараднае значэнне прыдаюць нацыянальнай гісторыі і мове.

Дарэчы, аб мове. Этналінгвістычным праблемам беларуска-польска-літоўскага сумежжа была прысвечана работа асобнай секцыі. Звярнуў на сябе ўвагу матэрыял, прадстаўлены вядомым лінгвістам, міністрам адукацыі і навукі Літоўскай Рэспублікі прафесарам З. Зінкявічусам, які зрабіў спробу вызначыць статус гаворак літоўцаў, што пражываюць на землях беларускай Астравеччыны. Цікавасць выклікаў даклад навукоўца з Вільнюскага універсітэта М. Савіча аб межах распаўсюджання беларускіх гаворак у Літве. На думку літоўскага даследчыка, арэал беларускіх гаворак у Літве часам даволі глыбока ўкліньваецца ў літоўскі моўны масіў, і, па сучасных назіраннях, беларуская мова з'яўляецца агульна распаўсюджанай на значнай тэрыторыі Віленшчыны. У паўднёва-ўсходняй Літве, напрыклад, сустракаюцца толькі рэлікты традыцыйных літоўскіх гаворак, мясцовае насельніцтва ў побыце працягвае карыстацца беларускай мовай (пераважна гаворкамі сярэднебеларускага тыпу, на думку літоўскага даследчыка).

Дарэчы, пытанні мовы выкладання і навучання не былі абыдзены ўвагай і ў час работы секцыі "Рэгіянальная адукацыя беларуска-польска-літоўскага сумежжа". Па даных Ё. Русакевіча (Літва), у 1970-я гады школьнікі літоўскага паходжання складалі толькі 1,3 працэнта сярод навучэнцаў школ Вільнюскага раёна, у той час як доля беларусаў і палякаў перавышала 94 працэнты. Як адзначыў прафесар С. Яцкевіч (г. Брэст), у 1939/40 навучальным годзе ў сярэдняй школе цяперашняга літоўскага горада Друскінінкай з 405 вучняў толькі чацвёра (менш 1 працэнта) прадстаўлялі літоўскую нацыянальнасць. Больш дзяцей школьнага ўзросту літоўскай нацыянальнасці ні ў Друскінінкаі, ні ў яго наваколлі ў той час проста не было. Зразумела, многае змянілася з таго часу. Аб палітыцы, якая праводзіцца ўладамі Літвы ў адносінах да адукацыі некарэнных народаў, апавядаў дырэктар Дэпартамента рэгіянальных праблем і нацыянальных меншасцей пры ўрадзе Літоўскай Рэспублікі доктар Р. Мотузас. Дырэктар беларускай школы імя Ф. Скарыны ў г. Вільнюсе І. Сівалава і загадчыца кафедры беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры Вільнюскага педагагічнага універсітэта доктар філалогіі Л. Плыгаўка апавядалі аб адраджэнні беларускамоўнага навучання ў Літве. Доктар гуманістычных навук Э. Чыквін з Беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта паказала ўдзельнікам канферэнцыі зняты ёю фільм аб дзейнасці першага на тэрыторыі Польшчы беларускага дзіцячага сада ў г. Беластоку.

З зацікаўленасцю былі сустрэтыя даклады аб адраджэнні нацыянальнай адукацыі этнічнай групы кашубаў у Польшчы, з якімі выступілі доктар навук К. Косак-Глуўчэўскі з Гданьскага універсітэта і дырэктар Глодніцкай школы, што пад г. Гдыняй, В. Баброўскі. Апошні прывёў такі факт: калі некалькі год назад мясцовыя ўлады вырашылі перавесці ягоную школу з кашубскай мовы навучання на польскую, бацькі навучэнцаў абвясцілі бестэрміновую забастоўку. І ўлады вымушаны былі адступіць: Глодніцкая школа засталася кашубскай. Слухаючы гэты аповяд, міжвольна параўноўваў пачутае з рэакцыяй бацькоў беларускіх школьнікаў на змену статуса беларускіх школ пасля майскага рэферэндуму 1995 года...

Плённым і цікавым выдаўся таксама працяг работы канферэнцыі на літоўскай зямлі. У г. Вільнюсе ўдзельнікі наведалі могілкі Роса — своеасаблівы пантэон выдатных дзеячаў беларускай, літоўскай, польскай культуры, сустрэліся з педагагічным калектывам беларускай школы імя Ф. Скарыны, азнаёміліся з дзейнасцю Цэнтра нацыянальных даследаванняў Літоўскай Рэспублікі, абмяняліся меркаваннямі наконт далейшага супрацоўніцтва падчас работы "круглага стала".

Матэрыялы канферэнцыі выдадзены Міжнароднай акадэміяй вывучэння нацыянальных меншасцей у трох кнігах.

Канферэнцыя завяршылася, але даследаванне культур беларускага пагранічча на гэтым не спыняецца. Падчас правядзення канферэнцыі ў г. Гродне адбыўся агульны сход Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей, на якім было прынята рашэнне аб правядзенні наступнай міжнароднай навуковай канферэнцыі "Культура беларуска-польска-ўкраінскага сумежжа" ў 1998 годзе. Час не чакае...

**Сяргей ЯЦКЕВІЧ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар, прэзідэнт Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей.**

## «СЦЯЖЫНКА ДА СВЯТЛА»



**Так называецца адна з работ мастачкі з Браслаўшчыны Аліны Трукан. Паміж цёмных ствалоў старых дрэў ідзе сцяжынка да храма, насустрач сонцу. Гэты сюжэт не толькі ўспаміны дзяцінства. Усё сваё жыццё і творчасць Аліна здолела настроіць на светлы лад.**

**Нарадзілася і вырасла Аліна Трукан на Браслаўшчыне. Толькі на час вучобы ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчаму мастацтву ў Мінску пакідала яна свой цудоўны край, каб ужо жывапісцам вярнуцца сюды назаўсёды.**

**Жыве Аліна з мужам Паўлам у вёсцы Дварышча, выхоўвае трох сыноў. І які духоўны зарад трэба мець, каб, аддаючы шмат энергіі сям'і, не патануць у бытавой паўсядзённасці і знайсці сілы для творчасці. Працуе Аліна шмат. І як вынік — удзел яе работ у рэспубліканскіх выставах, персанальная выстава "Святло майго кахання" ў Браславе і Віцебску.**

**Аліна натхнёна займаецца жывапісам. Работа над іконамі дае ёй духоўны спакой, а гэта і дапамагло знайсці тую самую сцяжынку да светлага ўспрымання свету.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: мастачка з вёскі Дварышча Браслаўскага раёна Аліна ТРУКАН.**

## З'ЕЗД ЗБВБ

# АРГАНІЗАЦЫЯ, ЯКАЯ ЯДНАЛА І ЯДНАЕ БЕЛАРУСАЎ

Агульны гадавы з'езд сяброў і дэпутатаў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі адбыўся ў Лондане ў суботу 1 чэрвеня 1997 года а 14-й гадзіне ў зале пры Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны. З'езд адкрыў старшыня ўправы ЗБВБ спадар В. Еўдакімаў. Старшыня запрасіў айца А. Надсона малітвай звярнуцца да Бога за поспех з'езда. Пасля малітвы айцец Надсон напомніў яго ўдзельнікам пра першы з'езд беларусаў у Англіі. Гэты факт мае гістарычнае значэнне: тады было закладзена ЗБВБ, арганізацыя, якая яднала беларусаў, што жывуць у Англіі, і яднае іх да гэтай пары. Потым была выбрана мандатная камісія ў складзе М. Баяроўскага, С. Будкевіча і Я. Шастова.

Пасля прагляду картатэкі сяброў і падліку колькасці прысутных камісія дэкларавала: ёсць кворум, і з'езд упаўнаважаны праводзіць сваю работу. У прэзідыум з'езда аднагалосна былі выбраны старшыня М. Швядзюк, сакратары Д. Гурло і І. Дабяніцкая. Пратакол папярэдняга з'езда ЗБВБ быў прачытаны сакратаром Д. Гурло. Справаздачу даў старшыня В. Еўдакімаў. Ён запрасіў прысутных хвілінай маўчання ўшанаваць памяць тых сяброў, якія адышлі ў іншы свет. Потым прывітаў новых, маладых сяброў, якія папоўнілі рады арганізацыі.

Інфармацыю аб дзейнасці харытатыўнай секцыі пры ЗБВБ дала старшыня секцыі спадарыня Л. Міхалюк, а пра фінансавы стан — бухгалтар Д. Гурло. Справаздачы пра фінансы дамоў ЗБВБ у Лондане, Брадфордзе і Манчэстэры склалі іх адміністратары. Пасля дыскусіі па справаздачах з'езд прызнаў абсалютобым уступаючай Управе.

Новая Управа ЗБВБ выбрана ў наступным складзе: старшыня Л. Міхалюк, сакратар і скарбнік Д. Гурло; сябры: айцец А. Надсон, Я. Ясіловіч і Сянько. У Назіральную раду ўвайшлі Мартынчык, Казлоўскі, Сянько.

В. Еўдакімаў паведаміў з'езду аб звароце Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" аб планавым з'ездзе, які мае адбыцца ў Мінску 26—27 ліпеня 1997 года. Пасля ўсебаковай дыскусіі адносна з'езда было пастаноўлена: на жаль, з-за цяперашняй палітычнай сітуацыі, якая пануе на Беларусі, афіцыйнай дэлегацыі ад ЗБВБ не высылаць, а толькі выслаць прывітанні і фінансавую дапамогу камітэту з'езда. Закрыўся з'езд спяваннем гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", а пасля прыняццем, якое прыгатавалі сяброўкі згуртавання.

**С. БУДКЕВІЧ.**

Англія.

*ШТО Ў ВОПЫЦЕ ЧЭХІІ ПРЫДАСЦА БЕЛАРУСІ?*

## ДУШАН ДАСКАЧЫЛ:

# «У НАШЫХ УЗАЕМААДНОСІНАХ НЕ НАЗІРАЕЦЦА СУПЯРЭЧЛІВАСЦЕЙ...»

***Душан Даскачыл нарадзіўся ў 1943 годзе ў Славакіі. Пасля заканчэння МДІМА ў 1968 годзе паступіў на работу ў МЗС ЧССР. Вясной 1971 года па палітычных матывах звольнены. Да мая 1990 года працаваў у бюро падарожжаў "Чэдак".***

***Пасля палітычнай рэабілітацыі ў 1990 годзе вярнуўся ў МЗС ЧССР, дзе працаваў ва Упраўленні краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (СССР, СНД).***

***У студзені 1992 года быў накіраваны на работу ў Пасольства ЧСФСР у Маскве.***

***З кастрычніка 1994 года — Часовы Паверaны ў справах Пасольства Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.***

**— Якое ўражанне зрабіла на вас наша краіна?**

— У Рэспубліцы Беларусь працую ўжо трэці год і павінен сказаць, што задаволены тым, як лёс распарадзіўся. Мне прыемна сустракацца з беларусамі не толькі таму, што Чэшская Рэспубліка ў іх узаемна выклікае вялікую цікавасць. Тут не сустрэнеш нацыяналізму, а наадварот — цікавасць да новага, жаданне жыць па-новаму.

**— Якія сёння асноўныя тэндэнцыі беларуска-чэшскіх адносін? У якіх галінах супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі развіваецца найбольш эфектыўна?**

— У нашых узаемаадносінах не назіраецца супярэчлівасцей, і мы лічым, што іх далейшаму развіццю павінны садзейнічаць актыўныя дзеянні нашых краін у сферы еўрапейскай праблематыкі, у пытаннях падтрымкі і абароны інвестыцый і ў пытаннях прадухілення ўзаемнага падаткаабкладання. Гэта яшчэ больш адкрые магчымасці паспяховага супрацоўніцтва ў галіне таваraабмену, стварэння сумесных прадпрыемстваў і капіталаўкладанняў.

Для росту долі беларускага экспарту пажадана нарошчванне ўдзелу беларускіх фірм у спецыялізаваных выставах у Чэшскай Рэспубліцы.

З мэтай развіцця ўзаемных эканамічных адносін была створана ў Празе гандлёва-прамысловая палата па супрацоўніцтву з краінамі СНД. Мае зрухі таксама ратыфікацыя пагадненняў паміж Чэшскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь аб інвестыцыях і прадухіленні двайнога падаткаабкладання.

**— Якія палітычныя і эканамічныя праблемы найбольш актуальныя для Чэшскай Рэспублікі?**

— Усе мы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе выйшлі з аднаго цягніка і павінны вырашаць у прынцыпе адны і тыя ж задачы — датычыць гэта эканомікі або палітыкі. Ва ўнутрыпалітычнай сферы гэта ўмацаванне даверу дзяржаве і яе органам у насельніцтва. Дзяржава не можа метадамі і формамі мінулага звяртацца да насельніцтва, і тут яе поле дзеянняў як у галіне сацыяльнай абароны, так і ў галіне прадастаўлення эканамічных і палітычных свабод. У галіне эканамічнай актуальным застаецца захаванне законнасці пры рэалізацыі працэсу прыватызацыі, пры выкананні падатковай дысцыпліны, пры выкананні ўзятых на сябе фінансавых абавязацельстваў. Не менш важнай галіной застаецца дасягненне збалансаванага развіцця знешняга гандлю і плацежнага балансу. Як бачыце, праблемы знаёмыя і беларускай эканоміцы.

**— Эканоміка Беларусі знаходзіцца ў стане глыбокага эканамічнага крызісу. Чэхія зусім нядаўна была ў аналагічнай сітуацыі. Як яе ўдалося пераадолець?**

— Нядаўнія эканамічныя цяжкасці, з якімі сустрэлася наша краіна, не насілі крызіснага характару, нягледзячы на зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці. Гэта былі сістэмныя цяжкасці, у аснове якіх ляжала праблем змянення адносін уласнасці, унутранай перабудовы і макраэканамічных змяненняў. Працэс рыначнай трансфармацыі праходзіў зусім не стыхійна, а па "нотах", напісаных дзяржавай, праходзіў буйнамаштабна і без скачкоў. Асноўная перавага, якой мы дамагліся, была ў стварэнні транспарэнтных правілаў для прадпрымальніцтва і даверу да дзяржавы.

Незалежныя даследаванні паказваюць, што і пры ўздыме вытворчасці мы яшчэ не дасягнулі ўзроўню 1989 года. Акрамя таго наш вопыт даказвае, што пройдзены толькі "першапачатковы" этап рыначнай трансфармацыі. Перад намі цяжкі працэс завяршэння стварэння вышэйшых арганізацыйных форм у вытворчай, банкаўскай і фінансавай сферах, умацаванне свабодна канверсаванай нацыянальнай валюты. Важнае значэнне на гэтым этапе набывае правільнае вызначэнне адносін паміж дзяржавай і свабодным рынкам.

**— Якія формы ўласнасці існуюць сёння ў Чэхіі? Якая з іх дамінуе? Якую ролю адыгрывае дзяржаўная ўласнасць у развіцці эканомікі краіны?**

— Канстытуцыйна замацавана поўнае права прыватнай уласнасці і на практыцы рэалізуецца раўнапраўе ўсіх форм уласнасці. Пераважнай стала прыватная форма ўласнасці — ад дробнага вытворчага або камерцыйнага прадпрымальніцтва да буйной прамысловай вытворчасці, транспарту, фінансаў і да т. п. Роля дзяржуласнасці ў эканоміцы не з'яўляецца вызначальнай, як не з'яўляецца вызначальнай і роля дзяржавы пры вызначэнні аб'ёмаў вытворчасці.

**— Наколькі ў Чэхіі рэалізавана ідэя пабудовы грамадзянскай дзяржавы? Што з чэшскага вопыту можна ажыццявіць ва ўмовах станаўлення суверэннай беларускай дзяржавы?**

— Грамадзянская дзяржава як праяўленне ўлады дэмакратыі для нас не столькі мэта, колькі інструмент стварэння па-новаму арганізаванага грамадства. У гэтым сэнсе мы на самым пачатку гэтага шляху. Дзяржава дала свабоду эканамічных дзеянняў гаспадарчым суб'ектам. Палітычныя свабоды рэалізаваны шляхам перадачы ўлады палітычным партыям, якія атрымалі перавагу на ўсеагульных парламенцкіх выбарах. Гэта важныя дасягненні, але нас чакае яшчэ вырашэнне праблем аховы здароўя, падтрымкі адукацыі і культуры, стварэння больш глыбока прафіляванай сістэмы самакіравання.

**— Права грамадзян на атрыманне інфармацыі з'яўляецца адной з найважнейшых умоў дэмакратыі. У чым заключаецца механізм яго рэалізацыі ў Чэхіі?**

— Тое, што адбылося ў гэтай галіне, раўназначнае перавароту. Ад кіруемай дзяржавай сістэмы інфармацыі быў зроблены пераход да сістэмы незалежных сродкаў масавай інфармацыі ў поўным аб'ёме. З самага пачатку ўсе яны былі пастаўлены дзяржавай у аднолькавыя ўмовы. Выключэнне складаюць толькі газеты і часопісы, якія выдаюцца органамі нацыянальных меншасцей — немцаў, палякаў, цыганоў, яны атрымліваюць фінансавую падтрымку ад дзяржавы. Цікава, што сярод заснавальнікаў газет і часопісаў няма не толькі дзяржавы, але і буйных палітычных партый, што, вядома, не перашкаджае выказваць у газетах блізкія ім думкі. Трэба сказаць, што газеты і часопісы значна змянілі сваё аблічча і змест, сталі яшчэ бліжэй да сваіх чытачоў, толькі ў гэтым гарантыя іх жыццяздольнасці.

**Гутарыў Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

# ЧАЛАВЕК, ЯКОГА ВЕДАЛІ, ХВАЛІЛІ, ЛЮБІЛІ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

У акопах зближаецца з бальшавікамі і становіцца членам РСДРП(б).

Пасля цяжкага ранення Аляксандра Хацкевіча ў 1917 годзе камісавалі, і ён вярнуўся ў родную вёску. Пасля Кастрычніцкага перавароту Хацкевіч змагаўся за ўстанаўленне савецкай улады ў Лошніцкай воласці. Людзі яго разумелі, верылі яму і ішлі за ім. Таму і даверылі ўзначаліць рэвалюцыйны камітэт Лошніцкай воласці.

Калі германскія войскі захапілі Барысаў, Аляксандр Хацкевіч у тыле ворага вёў падпольную работу. Ён заклікаў сялян на барацьбу з акупантамі, удзельнічаў у дастаўцы зброі партызанскім атрадам, збіраў звесткі пра ворага. Немцам удалося арыштаваць Хацкевіча, але на выручку прыйшлі сяляне і вызвалілі яго. Аказаўшыся на волі, Аляксандр разам з баявымі сябрамі арганізоўваў дыверсіі супраць ворага.

У снежні 1918 года, пасля выгнання германскіх акупантаў, сяляне выбралі А. Хацкевіча старшынёй Лошніцкага валаснога выканкома. У Лошніцы жыццё паступова наладжвалася. Але ўжо вясной 1919 года значную частку Беларусі захапілі польскія інтэрвенты. Аляксандр Хацкевіч вёў падпольна-агітацыйную работу сярод насельніцтва, дапамагаў часцям Чырвонай Арміі. Узяцце Барысава мела важнае стратэгічнае значэнне. Штабу 16-й арміі, які размяшчаўся на станцыі Прыяміна, патрэбны былі дакладныя звесткі аб становішчы на фронце. Чэрвеньскай ноччу 19 чырвонаармейцаў і некалькі членаў Барысаўскага рэўкома на чале з А. Хацкевічам адправіліся ў разведку. Разам з імі быў і член Рэўваенсавета 16-й арміі Р. Арджанікідзе. Дарога ішла па балотах, лесе. На кожным кроку можна было чакаць варожай засады. Выручалі дождж, цемра і кемлівасць чырвонаармейцаў. На досвітку дабраліся да Замошша, гарадскога прадмесця Барысава. А. Хацкевіч наладзіў сустрэчу Р. Арджанікідзе з членамі падпольнага камітэта бальшавікоў. Арджанікідзе двойчы хадзіў у заняты акупантамі Барысаў, дакладна даведаўся пра сілы і ўзбраенне праціўніка, дамовіўся з мясцовымі падпольшчыкамі аб планах сумесных дзеянняў. Вярнуўшыся на станцыю Прыяміна, Арджанікідзе аддаў загад аб наступленні. Адначасова выступілі і партызанскія атрады. У выніку рашучых, смелых дзеянняў часцей Чырвонай Арміі і партызан акупанты былі выгнаны з горада.

Пасля аднаўлення савецкай улады Аляксандр Хацкевіч кіраваў Барысаўскай павятовай рабоча-сялянскай інспекцыяй, быў намеснікам старшыні, старшынёй Барысаўскага павятовага рэўкома, узначальваў камісію па барацьбе з бандытызмам. Ён сам удзельнічаў у многіх баявых аперацыях. Змагаючыся супраць бандытаў, барысаўчане адначасова аднаўлялі свой горад. Адной з галоўных задач на той час быў рамонт чыгуначнага моста праз Бярэзіну, ад якога залежаў рух на найважнейшай чыгуначнай магістралі Мінск — Масква. Патрэбных жалезных ферм не мелі, і было вырашана пабудаваць драўляны мост. Чыгуначнікі, рабочыя прадпрыемстваў Барысава, сяляне ўзвялі мост за дзесяць дзён. Сярод чонаўцаў, якія ўдзельнічалі ў будаўніцтве моста праз Бярэзіну, была і шаснаццацігадовая Таццяна Бірыч, будучы вядомы ўрач-афтальмолаг, член-карэспандэнт АН БССР, Герой Сацыялістычнай Працы. 13 лютага 1921 года жыхары Барысава сабраліся на мітынг, прысвечаны аднаўленню чыгуначнага моста праз Бярэзіну. А. Хацкевіч, які ў снежні 1920 года быў выбраны старшынёй Барысаўскага павятовага выканкома, сардэчна падзякаваў будаўнікам і ад імя працоўных горада ўзнагародзіў іх мылам, папяросамі і запалкамі. Гэты драўляны мост прастаяў амаль дзесяць гадоў.

Жыццё ў Барысаве паступова наладжвалася, усюды былі відаць перамены. Газета "Звязда" пісала 9 снежня 1922 года: "...Грамадзянская вайна ў свой час паставіла Барысаў на першую лінію баявога агню. Шмат рэвалюцыйна-геройчнага бачыў Барысаў. Шмат перажыў... Цяпер мір. Але штосьці вось засталося. Барысаў можа пахваліцца сваімі добрымі работнікамі, стойкімі рэвалюцыянерамі. Яны і зараз на сваіх пастах працуюць, як працавалі ў прайшоўшыя гераічныя дні. І вынікі ў наяўнасці: савецкая работа пастаўлена добра. Выканком выдатны, сувязь з масамі, з вёскай — нядрэнныя. Старшыню выканкома ведаюць, хваляць, любяць".

Пачынаючы з 1921 года і да канца свайго жыцця, Аляксандр Хацкевіч выбіраўся ў вышэйшыя органы ўлады Беларускай Рэспублікі і савецкай дзяржавы. У 1921 годзе ён становіцца членам Цэнтральнага Камітэта БССР, а з 1925 года — членам яго Прэзідыума. У снежні 1922 года А. Хацкевіч быў выбраны дэлегатам IV Усебеларускага з'езда Саветаў, які паслаў яго як прадстаўніка беларускага народа на X Усерасійскі з'езд Саветаў. У снежні 1922 года А. Хацкевіч як член паўнамоцнай дэлегацыі БССР падпісаў Дэкларацыю аб утварэнні СССР. 30 снежня 1922 года на першым з'ездзе Саветаў СССР А. Хацкевіча выбралі членам ЦВК СССР. Акрыленым, усхваляваным, поўным сіл і энергіі вярнуўся А. Хацкевіч з Масквы. Ён і раней не цураўся работы, цяпер жа працаваў, здавалася, не адчуваючы стомы. Яго можна было бачыць на аднаўленні фабрыкі "Папірус", дрэваапрацоўчых заводаў, гарадской электрастанцыі. Часта наведваў ён шклозавод. Былыя гаспадары гуты збеглі разам з пілсудчыкамі, захапіўшы з сабой станкі і абсталяванне. Але шклавары рашылі ў што б там ні было ажывіць завод. Са сваімі рыдлёўкамі, кіркамі ішлі расчышчаць цэхі, латаць старыя і ставіць новыя дахі і сцены, "лячыць" пакалечаныя машыны. І ўжо ў 1922 годзе шклозавод адным з першых у рэспубліцы выдаў прадукцыю, хутка дасягнуў даваеннай выпрацоўкі.

Пасля пуску электрастанцыі загарэліся першыя лямпачкі ў горадзе. Прыйшла электрычнасць таксама і ў родныя Навасёлкі, дзе рабочыя Барысава адрамантавалі лакамабіль, далі ток мясцоваму лесапільнаму заводу, асвятлілі вясковыя хаты.

Адразу ж пасля вызвалення Барысава ад польскіх інтэрвентаў павятовы выканком пачаў прымаць дзейсныя меры па аказанню дапамогі жыхарам Старога Барысава, у якім легіянеры спалілі 4 тысячы дамоў, разбурылі шэраг заводаў і фабрык. Ва ўцалелых памяшканнях не засталося ніводнай шыбіны. Страты дасягнулі 15 мільёнаў рублёў золатам. На выручку барысаўчанам прыйшлі чырвонаармейцы 16-й арміі-вызваліцельніцы. Яны выдзелілі жыхарам прадукты харчавання, грошы, дапамагалі рамантаваць, будаваць дамы.

На трэцяй сесіі ЦВК БССР, якая праходзіла ў сакавіку 1923 года, старшыня Барысаўскага павятовага выканкома далажыў дэлегатам аб становішчы горада і ходзе аднаўлення народнай гаспадаркі. Саўнарком БССР стварыў спецыяльную камісію па аднаўленню Барысава, выдзеліў неабходныя сродкі. Старшынёй гэтай камісіі назначылі А. Хацкевіча. Рабочыя дружна ўключыліся ў аднаўленне горада, на месцы папялішчаў хутка паўсталі майстэрні, жылыя дамы. Папяровая фабрыка, цагельны завод, мылаварная фабрыка, майстэрня па вырабу калёс сталі даваць прадукцыю. Пачала працаваць, перавозіць грузы чыгунка. Ужо ў 1921 годзе запалкавая фабрыка "Чырвоная Бярэзіна" вырабіла каля 48 тысяч пачкаў запалак. Былі пабудаваны дзесяткі школ, жылых дамоў, клубаў. Запалкавая фабрыка, фабрыка "Профінтэрн", шклозавод на свае сродкі адкрылі дзіцячыя дамы, вучылі дзяцей і дарослых грамаце. У пачатку 1923 года ў павеце працавала 280 дзяржаўных школ, а таксама 100 школ, якія былі адкрыты на сродкі насельніцтва. У былым княжацкім маёнтку размясціўся сельскагаспадарчы тэхнікум. Барысаўшчына хутка адбудоўвалася.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

**(Заканчэнне будзе).**

ЮБІЛЕЙ У ВЯЛІКАЙ КРАКОТЦЫ

# «ЧАСОЎ БУРЛІВЫХ РОДНЫ МАЦЯРЫК...»



Кожны раз, калі еду ў вёску Вялікая Кракотка, што на Слонімшчыне, на думку прыходзяць радкі з верша Міколы Арочкі, прысвечанага Вялікакракоцкай сельскай бібліятэцы імя Янкі Купалы:

**Мой цэлы свет: Вялікая Кракотка,**
**Часоў бурлівых родны мацярык.**
**Была Кракотка, як рака ў паводку.**
**Была Кракотка — гнеў, і боль, і крык...**
**...Нязломны дух... Жывая сіла мовы.**
**Жыву з тых дзён я вашаю красой.**
**Жыткевічы... Збраевіч... Трафімовіч...**
**Ля вас я грэўся словам і душой...**

Не выпадкова ў гэтых паэтычных радках Мікола Арочка ўспамінае прозвішчы Жыткевічаў, Збраевіча і Трафімовіча. Справа ў тым, што 70 гадоў назад у вёсцы Вялікая Кракотка на Слонімшчыне пры гуртку Таварыства беларускай школы (ТБШ) вясковая моладзь заснавала бібліятэку-чытальню, якую назвалі імем народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры рэспублікі, якой прысвоена імя песняра беларускага народа. Арганізатарамі ТБШ і бібліятэкі ў той нялёгкі 1927 год былі Рыгор Акулевіч, Сцяпан Ігнатовіч, Васіль Трафімовіч, Сямён Жыткевіч, Павел Таўлай, Кастусь Петручэня і іншыя. Аб гэтай падзеі нават пісала газета "Наша праўда" (№ 11 ад 11 мая 1927 года). Дарэчы, што тычыцца Рыгора Акулевіча, то пазней, калі эмігрыраваў у 1928 годзе ў Канаду, ён быў актыўным арганізатарам Федэрацыі рускіх канадцаў. У далёкай краіне Рыгор Акулевіч прымаў удзел у выпуску першай рускай газеты ў Канадзе "Канадский гудок", пасля рэдагаваў газету "Вестник". У Таронта ён напісаў і выдаў дзве свае кнігі "Рускія ў Канадзе" (1952 год) і "50 год Беларускай рэспублікі" (1968 год).

Працу моладзь пачала з таго, што сабрала сярод насельніцтва кнігі і грошы на набыццё літаратуры і інвентару. Знайшлося для культурнай установы і памяшканне — хата Данілы Грасевіча, які не вярнуўся з бежанства. На заклік вялікакракоцкіх сялян адгукнуліся і жыхары суседніх вёсак Рудаўка і Малая Кракотка. Бібліятэкарам на грамадскіх пачатках працаваў Сямён Акулевіч. Пры бібліятэцы адразу арганізавалі драматычны і харавы калектывы мастацкай самадзейнасці, якімі кіравалі Васіль Трафімовіч і Аляксандр Жыткевіч. За кароткі час вясковыя артысты паставілі "Паўлінку", "Раскіданае гняздо", "Прымакі", "На папасе" Янкі Купалы, вадэвіль Л. Родзевіча "Збянтэжаны Саўка" і іншыя п'есы. Выручаныя ад пастановак грошы ішлі ў фонд бібліятэкі.

Найбольшае папаўненне бібліятэка атрымала ў канцы 1928 года, калі кніжны фонд склаў адну тысячу назваў. У гэтым была вялікая заслуга і кракоцкай моладзі.

Праіснаваўшы каля двух гадоў, бібліятэка-чытальня імя Янкі Купалы ў 1929 годзе была зачынена польскай паліцыяй, а кнігі канфіскаваны. Затым пачаліся рэпрэсіі супраць актывістаў, многіх без суда і следства кінулі ў канцлагер Картуз-Бяроза.

У верасні 1939 года ў вёсцы Вялікая Кракотка гэтую слаўную купалаўскую бібліятэку зноў аднавілі, але праз некаторы час яе дзейнасць была спынена — ужо гітлераўскім нашэсцем.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

**НА ЗДЫМКУ: Уладзіслава ЛУЦЭВІЧ на святкаванні 30-годдзя бібліятэкі ў вёсцы Вялікая Кракотка (крайняя справа), 1957 г.**

*ПОШУКІ, ВЕРСІІ*

# ПРА ВЕШЧЫХ ПЕСНЯРОЎ, ФАРТУНУ РАДЗІВІЛАЎ І САКРЭТЫ СТАРЫХ РАДАВОДАЎ

У дзесятай быліцы, у размове персанажаў, князь Дамінік паўстае ўзорам нацыянальнай ахвярнасці:

**...Уладзімер Патоцкі здзівіў**
**і французаў шчадротай,**
**аддаўшы на скарб міліён, тож сваею**
**ахвотай**
**і князь Дамінік Радзівіл два палкі**
**там паставіў**
**адборнае конніцы, хоць і маёнткі**
**заставіў.**
*(Пераклад Б. Тарашкевіча).*

Раскажам яшчэ трохі пра далейшы лёс гэтых радзівілаўскіх маёнткаў, пра галавакружныя павароты сямейных хронік. У зусім юным узросце на Дамініка Радзівіла звалілася казачнае багацце, фартуна, як даўней казалі. Толькі маёнткі ў Віленскай, Гродзенскай, Мінскай і Валынскай губернях, дзе ў 1804 годзе налічвалася 120 тысяч душ мужчынскага полу, ацэньваліся на 200 мільёнаў злотых. Аднак з самага пачатку на гэтай спадчыне вісеў велізарны пяцідзесяцімільённы доўг, які нястрымна рос і далей — разаралі драпежнікі-пленіпатэнты (буйныя арандатары) ды і сам няўмелы і непрадказальны гаспадар. Літаральна за бесцань прадаюцца Тышкевічам біржанскія маёнткі на поўначы Літвы (на мяжы з Курляндыяй). Такім жа шляхам у чужыя рукі перайшлі ўладанні на Валыні. Вялікія страты радзівілаўскім скарбам нанёс той жа самы 1812 год. А. Кіркор піша ў "Живописной России": "Несвиж принадлежал Доминику Радзивиллу, который, на свой счет, поставил целый полк Наполеону. Полк этот почти весь был истреблен. Адмирал Чичагов доносил императору, что уцелевших воинов князь Радзивилл отправил в Несвиж, с обозом из пятидесяти возов с награбленною в Москве добычею. Обоз этот попал в руки русских. Адмирал Чичагов присовокупляет в своем донесении, "что князь Радзивилл позволил себе по этому случаю оскорбительные для русских войск намеки. За это, пишет Чичагов, я позволил порыться в подвалах его дома. Там нашли сокровища: жемчуг, бриллианты и т. д. Я увез все, что мог; это будет сложено в Бобруйске (там была крэпасць. — **Г. К.**) или другом месте, и Вы изволите решить, что с этим делать. Я не видал, но говорят, есть вещи достойные музеев. Все оценивают более, нежели на миллион рублей".

Кіркор не быў бы Кіркорам, вялікім патрыётам краю, калі б пасля цытаты з адміральскай дэпешы не дадаў ад сябе: "Сокровища, накопленные Радзивиллами в Несвиже целыми столетиями, ценились не на один миллион рублей. Там были предметы искусств, древности, достопамятности. Любопытно, куда все это девалось? Но адмирал Чичагов не упоминает, что при этом даже фамильный склеп Радзивиллов не был пощажен, кости выброшены из гробниц и многие гробницы разрушены". Сёння пра лёс нясвіжскіх скарбаў шмат піша наша прэса, дык пойдзем далей.

У 1813 годзе недзе ў цэнтры Еўропы памёр ад раны, атрыманай у баі, не проста палкоўнік польскіх уланаў або маёр напалеонаўскай гвардыі, а апошні прадстаўнік нясвіжскай лініі бліскучых магнатаў Радзівілаў. Прамых патомкаў "па мячы" не было (у князя Дамініка быў толькі пазашлюбны сын). Хвалюючы момант для тонкіх, пасівелых над мудрымі кодэксамі юрыстаў і знаўцаў арыстакратычнай генеалогіі. Хто ж будзе спадчыннікам? Каму пашанцуе? Каму дастанецца велізарнае багацце? У рэшце рэшт галоўным юрыстам і знаўцам усяго на свеце быў цар. Найбагацейшая Нясвіжская ардынацыя царскім загадам перадаецца Антону Радзівілу, заснавальніку прускай лініі гэтага магнацкага роду. Пазнанскаму дзеячу, прускаму саноўніку (будзем справядлівымі — і кампазітару, чалавеку выдатнаму), які, відаць, з маленства не бачыў той Літвы-Беларусі. Маёнткі, што не ўваходзілі непасрэдна ў ардынацыю (так званыя аладыяльныя), атрымала адзіная дачка Дамініка Стэфанія, якая, ледзь-ледзь увайшоўшы ва ўзрост, з блаславення таго ж цара выйшла замуж за сына расійскага фельдмаршала князя Вітгенштэйна. Неўзабаве — чамусьці вельмі-вельмі рана — яе княжацкая светласць пані Стэфанія закончыла свой зямны шлях, а велізарныя маёнткі так і асталіся за Вітгенштэйнамі (дарэчы, таксама нямецкі род). У сярэдзіне мінулага стагоддзя спадчына Стэфаніі ацэньвалася на 13 мільёнаў рублёў срэбрам (пад 100 мільёнаў злотых). Нейкі час, на падставе сямейных дамоўленасцяў, маёнткамі Вітгенштэйнаў на Беларусі валодаў іх сваяк князь Хлодвіг Гагенлоэ, будучы канцлер Германіі. Польскі гісторык Ш. Аскеназі пісаў на пачатку нашага стагоддзя на падставе аналізу дзённіка Гагенлоэ: "Асаблівае ўражанне робіць стасунак гэтага баварца да вялікіх літоўскіх уладанняў, якія дасталіся яму такім чынам. Гэты Гагенлоэ, які ўссеў на радзівілаўскім гаспадарстве, астаецца відавочна наскрозь чужаземцам ва ўласным сваім замку; прыязджае ён у Літву не раўнуючы нібы ў якую афрыканскую калонію; запісвае ў дзённіку пра зуброў і ласёў, не бачыць людзей, ні шляхты, ні сялянства; толькі раз выказвае здзіўленне з егераў, што рабілі аблаву ў палатняных нагавіцах і "сандалях", замест пекна абмундзіраванай паляўнічай службы, якая красуецца на панскіх паляваннях у цывілізаваных нямецкіх барах. Не спыняўся таксама на тым, што ў крэпкай сваёй галаве мог сабе думаць такі загоншчык-паляшук у лапцях, гледзячы на дзедзіча-немца, які паразумеваўся на мігі і без аніякага права ўладарыў на старой Літве".

Як бачым, выдатны польскі гісторык львоўскай школы змог хоць з большага паставіць сябе на месца простага палешука, якога ва ўпор не бачыў князь-баварац. Сваё захапленне талентам, прафесійным спрытам, чалавечымі якасцямі беларуса-палясоўшчыка "ў лапцях" выказаў трохі раней за Аскеназі ў цудоўнай паэме "Паляўнічыя акварэлькі з Палесся" наш паэт Янка Лучына, бацька якога, заўважым, таксама служыў у Радзівілаў (паверaным). Ад Лучынавага твора адзін крок да паэтычнага шэдэўра Якуба Коласа.

Маёмасныя справы Радзівілаў пасля гібелі князя Дамініка былі настолькі заблытаныя (іскі-прэтэнзіі шматлікіх крэдытораў, адмежаванне ардынацкіх земляў ад аладыяльных, межавыя спрэчкі паміж Радзівіламі і Вітгенштэйнамі), што спецыяльна створанай так званай Радзівілаўскай камісіі (яна ж — пракураторыя) з цэлым штатам пісарчукоў-службоўцаў хапіла працы на шмат-шмат гадоў. У гэтай камісіі, між іншым, працаваў, рыпеў пёркам сардэчны сябра Міцкевіча выдатны беларскі паэт і фельклары́ст Ян Чачот. (Дзякуй табе, пракураторыя — год за годам да самага арышту, да знакамітага следства над філаматамі, ты давала хлеб, карміла нашага паэта). У працэсе ўдакладнення тэрыторыі ардынацыі, размежавання ардынацкіх і аладыяльных земляў засценак Пяскі Луцэвічаў, як і ўвесь маёнтак Святы Двор, перайшоў да Вітгенштэйнаў, і тыя ўжо ў парэформенны час без лішніх сантыментаў раздзеліліся з Луцэвічамі, як і з астатняй шматлікай чыншавай шляхтай. Гістарычны парадокс: ганарлівая шляхта апынулася ў прынцыпова горшым становішчы, чымся былыя прыгонныя. Тыя атрымалі надзелы (няхай недастатковыя, бядняцкія, абрэзаныя), а шляхта дулю пад нос. Абураныя засцянкоўцы шукалі праўды ў судах, ды дзе там. Як усё гэта было, красамоўна расказвае надзвычай характэрны архіўны дакумент, здаецца, не ўлічаны ў купалазнаўстве:

1876 г. сакавіка 21. — Данясенне мінскага губернатара міністру ўнутраных спраў аб адмове арандатараў у маёнтку памешчыка Вітгенштэйна Святы Двор Ігуменскага павета вызваліць займаемыя імі землі і іх супраціўленні мясцовым уладам, якія спрабавалі прывесці ў выкананне судовы прысуд.

Секретно

При приведении судебным приставом Игуменского мирового округа в исполнение решения мирового судьи 4-го участка о восстановлении прав владения землевладельца кн. Витгенштейна для выселения из его имения вольных съемщиков-арендаторов, с назначением срока для очистки земель и домов владельца к 26 марта, жители застенков имения Святый двор Игуменского уезда, дворяне и мещане, в числе 828 душ обоего пола, оказали явное неповиновение насилием. В застенке Андруши жители, нахлынув толпою, не пустили судебного пристава в дом. Даже женщины бросились на него, изорвав повестку, и кидали в лицо грязью. Причем мужчины били бывшего с приставом волостного старшину палками, бросали камнями и, наконец, выгнали обоих, кидая в них грязью, кольями, палками и камнями, сопровождая ругательствами и криками: "Сволочи, грабители нашей земли" и тому подобное, "бить их, стрелять" и тому подобное.

То же сопротивление оказали жители Андруши и других застенков при становом приставе, которому также нанесли разные оскорбления и объявили, что если бы даже пришло войско, то все застенки соединятся и готовы пожертвовать собою. Несмотря на увещание прибывшего на место происшествия исправника, съемщики остались при своем упорстве, и дело доходит до необходимости выслать военную силу для восстановления должного порядка, хотя предварительно принятия решительных к тому мер я поручил исправнику произвести дознание о подстрекателях и о самих беспорядках и, кроме того, пригласил уездного предводителя дворянства отправиться на место происшествия, где съемщики в большинстве дворяне, убедить их в бесплодности и противозаконности такого рода действий и склонить обе стороны к полюбовному соглашению.

Представляя о сем до сведения вашего высокопревосходительства, поставляю долгом положить вместе с ним: 1) если в крайнем случае действительно придется для исполнения судебного решения употребить военную силу, то является неизбежным 828 душ, обжившихся семействами и хозяйством, совершенно разорить, выселив их неизвестно куда; 2) кроме этих 828 душ, в Минской губернии находится еще таких же съемщиков-арендаторов, поселившихся на таких же условиях из мелкопоместных дворян, мещан и бывшей польской шляхты, в имениях князей Витгенштейна и Радзивилла до 20 000, следовательно, пока выяснится вопрос о правовых отношениях на земле владельца и арендаторов, могут быть постоянные смуты и мера выселения будет еще тягостнее и разорительнее; а потому 3) является совершенно необходимым ясно и положительно решить вопрос по отношению прав проживающих в имениях съемщиков-арендаторов на земли владельцев или дать им надел, или указать казенные земли для поселения выселяемых, без чего изгнание такой массы народа из их оседлости неизвестно куда будет, по моему мнению, несоответственно с заботою правительства о благосостоянии народа и скорее поведет еще к большим беспорядкам.

Губернатор Чарыков.

На дакуменце рэзалюцыя міністра: "Дело это весьма важно. Доложить со справкой и соображениями. 25 марта". Але Вітгенштэйны былі мацнейшыя за губернатараў і міністраў. Магнаты абапіраліся на сваё непахіснае права ўласнасці, шляхта магла спаслацца хіба на традыцыю, на шанаваную ў народзе даўнасць. Роднае гняздо Луцэвічаў было назаўсёды страчана. Ужо цытаванае пісьмо Купалы Клейнбарту сведчыць, што ўсіх акалічнасцяў выгнання "з раю", перажытага старэйшым пакаленнем, паэт не помніў, але пачуццё вялікай крыўды перадалося ад бацькоў і яму. Адну яскравую дэталь выхапіла з бацькоўскіх нараканняў і аповядаў перабoрлівая паэтычная памяць — выганялі "вясной ад пасеваў". Як мы пераканаліся, гэта адпавядае дакументу.

Луцэвічы выйшлі з гэтай нялюдскай "працэдуры", можна сказаць, зусім голымі, сталіся перакаці-полем. Вось чаму наш нацыянальны прарок прыйшоў на свет божы не ў Пясках, дзе яго продкі жылі, палівалі салёным потам скупую ды ўсё ж хлебадайную раллю амаль два стагоддзі, а ў Вязынцы, у якой Луцэвічы затрымаліся ненадоўга ў сваіх беспрытульных блуканнях паМіншчыне ў пошуках лепшай долі. Тэма страчанай радзімы, "чужой бацькаўшчыны", "раскіданага гнязда", сталася адной з вядучых у творчасці паэта.

І калі Купала гаварыў: "О так! Я — пралетар!" — ён не надта крывіў душою.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 26—27.**

## Надзея ВЫСОЦКАЯ:

# «МУЗЕІ Ў НАС ТРЫМАЮЦЦА ЗА КОШТ ТАЛЕНАВІТЫХ ЛЮДЗЕЙ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

***— Вы лічыце, што лепш атрымліваць асалоду ад мастацтва аднаму!***

— Безумоўна, але для гэтага трэба высокая свядомасць і высокая культура. Палітыку масавага далучэння да мастацтва ў складзе экскурсій па музейных залах, калі людзі проста праходзяць міма унікальных каштоўнасцей, я лічу заганнай. З дзяцінства трэба працаваць індывідуальна. У Іспаніі, куды я вазіла выставу, ніводзін педагог не дазволіў, каб я працавала з яго групай, таму што толькі ён ведае псіхалогію сваіх дзяцей, ведае, хто можа глядзець на творы мастацтва гадзінамі, а хто павінен пабегаць, адпачыць ад няспыннага патоку інфармацыі.

***— Тым не менш, вернемся да нашых музеяў. Ці задавальняюць вас адносіны да даследчыцкай працы вучоных!***

— Ведаеце, мне вельмі часта здаецца, што наша навуковая праца разглядаецца як хобі, у той час як ва ўсім свеце да яе ставяцца як да асноўнага занятку вучоных і плацяць за яе вельмі прыстойныя грошы, якія даюць магчымасць даследчыку мець усё, што неабходна для работы. Але галоўная наша бяда — недастатковае фінансаванне. З-за гэтага мы страчваем унікальныя каштоўнасці, якія да нас прыносяць, а іх нямала, народ сёння збяднеў, жыць няма на што, нясуць і прадаюць усё, купіць хацелася б, ды няма грошай... Па-другое, хвалюе праблема сучасных мастакоў. Ім сёння вельмі складана жыць, і вялікі паток таленавітых твораў сплывае за рубеж, прычым, назаўсёды. Потым, калі прыйдзе час персанальнай выставы, доларамі сцяну не абклеіш і ў рамкі іх не ўставіш. Але ў мастака бязвыхадная сітуацыя, таму што тая сістэма дагавораў, закупак, выстаў, якая была адпрацавана савецкай уладай, сёння лопнула, а новая яшчэ не створана. Ды і ў наведвальнікаў з'явіліся свае праблемы: сёння трэба думаць, што купіць — білет ці кавалак хлеба. Але я ўпэўнена: наведвальнікі, якія не могуць жыць без мастацтва, будуць прыходзіць у музеі нягледзячы ні на што.

***— Дарэчы, заходнія музеі, акрамя прасторных залаў і электронных сродкаў кантролю, аснашчаны яшчэ і камп'ютэрамі...***

— На жаль, але яшчэ адна праблема, з якой сёння даводзіцца сутыкацца, — гэта традыцыйнае мышленне нашага старэйшага пакалення, ім вельмі цяжка ўсвядоміць неабходнасць пераходу на новыя тэхнічныя сістэмы і сродкі працы. Сёння ўвесь свет камп'ютэрызаваны, ды і што можа быць зручней — увесці ў памяць камп'ютэра ўвесь наяўны ў рэспубліцы музейны фонд і праз Інтэрнет далучыцца да культурнага багацця ўсяго свету. А ў нас думаюць: трэба нам гэта ці не? Можа, справа ў тым, што камп'ютэрызацыя робіць непатрэбнай такую колькасць людзей, вядзе да скарачэння рабочых месцаў. І чалавек старэйшага пакалення разумее, што ў яго з'яўляецца шанц апынуцца без справы, без яго могуць абысціся... І тым не менш, музеі ў нас трымаюцца за кошт таленавітых людзей, сапраўдных энтузіястаў. Калі б не было Алены Аладавай, дырэктара нашага мастацкага музея, не было б і самога музея, унікальнай калекцыі, якую яна сабрала. Толькі яна магла пераканаць урад выдаць велізарныя грошы на закупку экспанатаў, бо ёй трэба было плаціць за іх больш, чым Эрмітажу, Рускаму музею і Траццякоўцы, толькі тады гэтыя рэчы ёй перападалі. І пры гэтым удалося сабраць калекцыю, якая лічыцца адной з лепшых у былым Савецкім Саюзе. Я ўпэўнена, што музей павінен насіць яе імя.

***— А, уласна кажучы, што такое музей! Як бы вы, прафесіянал у гэтай справе, адказалі на пытанне!***

— Музей — гэта банк краіны, і не толькі духоўны, але і матэрыяльны. А таму сюды павінны ісці грошы, каб купляць унікальныя мастацкія каштоўнасці, укладваючы ў іх сродкі. Ва ўсім свеце існуе зрошчванне банкаўскага і музейнага капіталаў, не выпадкова ва ўсіх буйных краінах Заходняй Еўропы музей заўсёды курыруе які-небудзь банк. Я прывяду прыклад, які мяне вельмі ўразіў. Калі я працавала ў Сарагосе, там паўстала праблема: амерыканцы хацелі вывезці унікальны палац XVI стагоддзя, і дамоўленасць аб гэтым ужо была фактычна дасягнута. Але тады іспанскія банкіры аб'ядналіся і пабудавалі вакол гэтага палаца шыкоўны банк, акружыўшы яго офісамі і канторамі. Калі банк працаваў, палац можна было наведваць, прычым, бясплатна. Часам банкіры выкарыстоўвалі яго для прыёму асабліва шаноўных гасцей. Але самае галоўнае, што палац застаўся ў Іспаніі, і самі іспанцы зрабілі для гэтага ўсё магчымае. Чалавек павінен быць шчаслівы, што ён нарадзіўся на гэтай зямлі, павінен адчуваць сябе яе часткай. Толькі так гісторыя адной асобы ўпісваецца ў гісторыю ўсёй краіны.

***— А як вы ацэньваеце стан Нясвіжскага замка, які пакуль ратаваць няма каму!..***

— На жаль, прыстойна ён выглядае толькі звонку. На самай жа справе ўсё там прагніло, і каб яго адрэстаўрыраваць і прывесці ў парадак, патрэбны велізарныя сродкі. А прычына простая: заўсёды, калі замак мяняе гаспадара, асабліва калі новы гаспадар інакш мысліць і бачыць, гэта становіцца трагедыяй для помніка культуры. Аналогія напрошваецца сама сабою: тым жа Радзівілам належаў замак у Нябораве ў Польшчы, і ключ ад яго пасля 1945 года быў аддадзены самім Радзівілам Станіславу Лорэнцу. Дык вось, і па сённяшні дзень там усё стаіць так, як было пры Радзівілах. Што ж датычыць Нясвіжскага замка, то калі б адразу там усё было закансервавана і пакінута на сваіх месцах і ніхто не меў бы права вынесці і ўнесці рэчы, што там знаходзяцца, можа, лёс Нясвіжскага замка быў бы іншы. Але ўсё, што было ў замку, тут жа пачалі перавозіць у музейныя калекцыі, і пачаўся працэс разбурэння гэтага цэльнага помніка культуры. Любы помнік — гэта не проста сцены і камяні, гэта комплекс, у якім кожная рэч ляжыць на сваім месцы і складае частку ансамбля. Трэба быць вельмі асцярожным у такіх выпадках.

***— А ў якім стане сёння знаходзяцца саркафагі Радзівілаў!***

— Я абследавала гэтыя саркафагі некалькі гадоў назад. Усяго іх каля васьмідзесяці, у іх пахаваны Радзівілы. У саракавыя гады, адразу пасля вайны, туды прыязджаў вядомы антрапалаг Герасімаў і ўскрываў некаторыя саркафагі, каб мець магчымасць праводзіць аднаўленчыя работы. Упэўнена можна сцвярджаць толькі адно: гэты некропаль — адзін з нямногіх у свеце, і ён патрабуе велізарнай і сур'ёзнай увагі. У нас, на жаль, ужо ёсць сумны прыклад: у Воўчыне быў цудоўны некропаль сям'і Панятоўскіх, там быў пахаваны сам Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, перавезены з Пецярбурга на месца свайго нараджэння. Некропаль разбурылі, знішчылі, потым была спецыяльная камісія, якая сабрала астанкі, іх урачыста спалілі, і цяпер яны знаходзяцца ў каралеўскім замку ў Варшаве. Каб такі ж лёс не спасціг астанкі Радзівілаў, патрэбна адпаведная дзяржаўная палітыка. Такая ж палітыка патрэбна ў адносінах ратушы, касцёла, замка, Слуцкай брамы, Бенедыкцінскага манастыра. Нясвіж — маленькі Парыж, гэта закансерваваны цудоўны горад XVI—XVIII стагоддзяў, які мы абавязаны выратаваць.

***— Вас запрашаюць для экспертызы адабраных на таможні каштоўнасцей, якія спрабавалі кантрабандай вывезці з краіны! Ці шмат сёння вывозіцца на Захад!***

— Размеркаванне каштоўнасцей у Еўропе даўно адбылося, і заходні рынак антыкварыяту ўжо насычаны. Але як толькі выезд з нашай краіны стаў больш свабодным, паток кантрабанды пайшоў у Еўропу, і адбылося абясцэньванне тых унікальных каштоўнасцей і падзенне цэн у галерэях. Так што сёння паток кантрабанды не толькі абядняе нашу краіну, але і мяняе сітуацыю на рынку Еўропы, таму што кошт антыкварыяту напрамую залежыць ад колькасці унікальных рэчаў. Калі адначасова на рынак выкінуць усяго Урубеля, то ён увесь будзе каштаваць танней, чым адно палатно гэтага мастака. Цікавая дэталь: сёння антыкварыят за мяжой таннейшы, чым у нас.

***— Што менавіта сёння імкнуцца вывезці за мяжу!***

— На таможні затрымліваюць вельмі цікавыя рэчы, якія вязуць з усёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза: традыцыйныя іконы, унікальную рускую дробную пластыку, творы прыкладнога мастацтва, кнігі, візантыйскія свяцільнікі, дываны... Такое ўражанне, што цяпер пайшла новая хваля вывазу гэтых рэчаў, апошнім часам вязуць вялікія партыі ікон.

***— Ці закупляе сёння хто-небудзь прадметы антыкварыяту на вядомых аўкцыёнах для Беларусі за мяжой!***

— Калекцыянер-беларус, які лічыць сябе палякам, Анджэй Цеханавецкі, робіць пастаянныя закупкі на гэтых аўкцыёнах, і цяпер у Нацыянальным музеі ў каралеўскім замку ў Варшаве выстаўлена яго велізарная калекцыя. Там прадстаўлена шмат экспанатаў, цесным чынам звязаных з Беларуссю, такіх, як велізарны партрэт Генрыха Флемінга, некалі жанатага з прадстаўніцай роду Радзівілаў, там жа можна ўбачыць вялікія цудоўныя партрэты, хутчэй за ўсё зробленыя Луі Сільвестрам-малодшым, буйным французскім мастаком XVIII стагоддзя. Усё гэта каштуе вельмі вялікіх грошай і ідзе ў Польшчу. І палякі пастаянна яму кланяюцца, робяць яго паслом у Ватыкане, яго прымаюць, падтрымліваюць з ім кантакты, а мы — не, хоць, між іншым, ён падарыў нам слуцкі пояс. У Вільнюсе палац Радзівілаў аддадзены пад музей, там цэлая зала прысвечана гэтаму роду, і калі яны прыязджаюць у Вільнюс, абавязкова ідуць туды. А што будзе з тымі ж Радзівіламі, калі яны сёння прыедуць у Нясвіжскі замак?

***— Апошнім часам самі беларусы гавораць аб сабе, як аб беднай нацыі, у якой нічога свайго ніколі не было, а калі што і было, дык ужо прапала або раскрадзена. Ці так гэта!***

— Першай са славянскіх народаў еўрапейскае барока засвоіла Беларусь, і яна аказалася тым мастком, праз які ў ачышчаным ад каталіцызму выглядзе яно было прынесена ў маскоўскі двор і засвоена там у часы Аляксея Міхайлавіча. Вы думаеце, шахматныя фігуры прыйшлі з Еўропы да нас? Не, усё наадварот, з Беларусі шахматныя фігуры прыйшлі ў Еўропу, таму ў Беларусі самая вялікая колькасць шахматных фігур XII стагоддзя. Нашы майстры рабілі іх з тварамі, перадаючы ў іх персанажаў свайго часу. Між іншым, саркафагі Нясвіжскага замка — таксама першыя ў Еўропе, гэту ідэю ў XVI стагоддзі з Егіпта сюды прывёз Радзівіл Сіротка. Мы да гэтай пары не можам па-сапраўднаму зразумець Гусоўскага, а ўспомніце мноства друкарняў, якія тут працавалі, мануфактурныя вытворчасці, а народнае мастацтва, кераміка, росквіт Віцебскай школы, Шагал, Лежэ, да гэтага часу дызайнеры карыстаюцца распрацоўкамі Малевіча і Кандзінскага. І тэатр, і балет у Беларусі з'явіліся раней, чым у Расіі. Усё знаёмства з еўрапейскім мастацтвам, Моцартам, Бетховенам ішло праз сферу ўзаемаадносін і разумення культуры магнатаў. У развіцці рэалістычных дасягненняў і іканапісе беларускае мастацтва апярэджвае рускае амаль на стагоддзе, тут партрэт еўрапейскага ўзроўню з'явіўся ў канцы XV стагоддзя, а ў Расію ён прыйшоў толькі ў канцы XVII стагоддзя, тут ішло актыўнае засваенне рэнесансу, якога ў Расіі проста не было. У Беларусі існавала мноства найвышэйшых дасягненняў, і ў той жа час заўсёды прыніжалася значэнне нашай нацыянальнай культуры. Мы вельмі часта забываемся аб тым, чым можам і павінны ганарыцца, што складае славу нашай культуры.

**Гутарку вяла Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## *ВІЦЕБСКІЯ ВЫСТАВЫ*





**У Віцебску прайшла персанальная выстава работ выкладчыцы сярэдняй школы № 3 Таццяны Беразоўскай. На суд гледачоў яна прадставіла 75 графічных твораў.**

**НА ЗДЫМКУ:** Таццяна БЕРАЗОЎСКАЯ; яе работа "Меч для пераможцы".

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**



**Дваццаць пяты раз адкрылася штогадовая выстава дзіцячай тэхнічнай творчасці і рамёстваў у Віцебску. Каля 200 работ прадставілі выхаванцы студый і гурткоў абласнога цэнтра. Сярод твораў юных — разьба і роспіс па дрэву, малюнкі, мадэлі кацераў, вышыўка і пано, вырабы з керамікі і іншыя.**

**НА ЗДЫМКУ:** знаёмства з экспазіцыяй выставы.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## КУПАЛЛЕ



**Свята "Купалле" — адно з самых любімых у палескіх вёсках. Да яго рыхтуюцца, праходзіць яно па пэўнаму сцэнарыю. Удзельнічаюць у ім фальклорныя групы і калектывы.**

**Весела адзначаецца гэтае свята ў адной з вялікіх вёсак Драгічынскага раёна Бездзеж. На шырокім лузе ля вадаёма збіраецца ўвесь вясковы люд. Тон святу задаюць народныя калектывы Бездзежскага дома культуры, адзін з якіх так і называецца — "Купалінка". Шмат прыдумак на свяце і ў вучняў мясцовай школы.**

**НА ЗДЫМКУ: на гнядым жарабцы паехалі на купальскі луг вучні Бездзежскай сярэдняй школы Віктар КАРПІК і Алёна БЯЛЕВІЧ.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## «ЧАСОЎ БУРЛІВЫХ РОДНЫ МАЦЯРЫК...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Дата новага нараджэння Вялікакракоцкай бібліятэкі — жнівень 1946 года, пасляваенны час. Аднойчы ў вёску завітаў супрацоўнік слонімскай раённай газеты "Вольная праца" паэт Анатоль Іверс. Ён сабраў калгасны сход, на якім было аднадушна вырашана назначыць загадчыкам бібліятэкі імя Янкі Купалы інваліда вайны Аляксандра Жыткевіча. Трыццаць гадоў адпрацаваў Аляксандр Іванавіч, рабіў усё, каб яго родная бібліятэка апраўдала імя вялікага Купалы. Хто толькі ні пабываў у бібліятэцы, хто толькі ні выступаў перад працаўнікамі сельскай гаспадаркі са словамі ўдзячнасці і павагі да роднага слова, да мудрага Янкі Купалы! У 1957 годзе бібліятэку наведалі Пятрусь Броўка, Янка Брыль і Іван Шамякін. Пятрусь Броўка падараваў бібліятэцы свой двухтомнік. На першым томе ён напісаў: "Бібліятэцы імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы. З вялікай пашанай да яе прыхільнікаў і актыўных чытачоў Пятрусь Броўка. 29.5.1957 г."

Аўтографы пакінулі Я. Брыль і І. Шамякін.

У 1961 годзе свой двухтомнік з аўтографам прыслаў з Мінска Янка Брыль: "Чытачам бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы — з зямляцкай павагай і найлепшымі пажаданнямі Янка Брыль. Мінск, 6.01.61 г."

У траўні 1957 года Вялікакракоцкая сельская бібліятэка імя Янкі Купалы святкавала сваё трыццацігоддзе. На юбілей завіталі з Мінска Максім Лужанін, Рыгор Няхай, Пятро Прыходзька, супрацоўнікі музея Янкі Купалы, якія з сабою ў дар бібліятэцы прывезлі каля пяцідзесяці кніг з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў. "Кракоцкай бібліятэцы імя Янкі Купалы ў дзень яе слаўнага трыццацігоддзя ад аўтара Пятра Прыходзькі", — так напісаў на сваёй кнізе "Салдаты міру" гэты паэт-франтавік.

У 1972 годзе бібліятэка шырока адзначала 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. У вялікім літаратурным вечары, які тут праходзіў, прымалі ўдзел паэты Сяргей Грахоўскі, Алег Лойка, Анатоль Іверс, кандыдат філалагічных навук Янка Саламевіч і многія іншыя. Як памяць пра сустрэчу захоўвае бібліятэка іх кнігі з аўтографамі. З вялікай радасцю чытаю аўтограф Сяргея Грахоўскага на кнізе "Тры вымярэнні": "Чытачам бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы. Жадаю жыць у шчасці, любіць і шанаваць ніву, засяваную Купалавай шчодрай рукою".

Многія пісьменнікі дарылі свае кнігі з аўтографамі асабіста Аляксандру Жыткевічу, які любіў сваю справу і шырока прапагандаваў родную літаратуру і культуру. Іх таксама сёння можна знайсці ў бібліятэцы. Праўда, многія ўжо бясследна зніклі. "Дарагому Аляксандру Іванавічу Жыткевічу і вялікаму сябру кніг з сардэчнай павагай Мікола Арочка" — аўтограф земляка на кнізе "Крылатае семя". Піліп Пестрак на сваёй кнізе "Неспадзяванак" напісаў: "Аляксандру Жыткевічу — ад шчырага сэрца".



Ёсць у бібліятэцы і аўтографы Леаніда Прокшы, Сяргея Панізьніка, Івана Навуменкі, Алеся Якімовіча, Міколы Аўрамчыка, літаратараў Слонімшчыны. Але самая каштоўная рэліквія, якую захоўвае бібліятэка, — гэта аўтограф Якуба Коласа. У 1952 годзе з Мінска ён прыслаў бібліятэцы сваю кнігу "Адшчапенец", выдадзеную ў 1950 годзе. На ёй чарнільнай ручкаю напісана: "Бібліятэцы імя Янкі Купалы вёскі Вялікая Кракотка. Якуб Колас. 2.8.1952".

Вялікую дапамогу ў рабоце бібліятэкі аказала і жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Жывучы ў Мінску, яна амаль кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957-м прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі.

Сустрэчы з гэтай жанчынай Аляксандр Жыткевіч і сёння ўспамінае з вялікім хваляваннем, радасцю і цеплынёй. Яна была вельмі задаволена, што бібліятэка на Слонімшчыне носіць імя Янкі Купалы. Дзякуючы цёці Уладзі, для бібліятэкі прыслалі свае кнігі з аўтографамі Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак і многія іншыя дзеячы нацыянальнай літаратуры.

Сёння, у дзень свайго 70-годдзя, Вялікакракоцкая сельская бібліятэка з'яўляецца цэнтрам народнай культуры, асветы і крыніцай інфармацыі на Слонімшчыне. Загадчыцай яе працуе Надзея Чабанечка. Працуе сумленна, старанна і ўпэўнена працягвае традыцыі сваіх землякоў. Фонд бібліятэкі налічвае 13 тысяч кніг, штогод яна абслугоўвае каля пяцісот сваіх чытачоў. Памяшканне бібліятэкі, дзякуючы мясцовым уладам, адрамантавана. Таму, як кажуць, радуйся і працуй на карысць Бацькаўшчыне.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

**НА ЗДЫМКУ: Аляксандр ЖЫТКЕВІЧ — былы загадчык Вялікакракоцкай бібліятэкі, цяпер пенсіянер, жыве ў роднай вёсцы.**

## ДА 115-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

## З КУПАЛАМ У СЭРЦЫ

*Словы Сяргея Панізьніка*

*Музыка Міколы Яцкова*




**Мы жывём на зямлі,**
**Дзе малітвы крыло**
**Да купальскай крыніцы з надзеяй прыпала.**
**Нас наведаў Купала — святло ажыло:**
**Прамяністаму Слову маліўся Купала.**

**Прыпеў: Прытулак любові —**
**Купалаўскі дом.**
**З Купалам у сэрцы,**
**З Купалам у сэрцы жывём.**

**Нашай ніві вязьмо**
**На зажынкі заве.**
**Вольны вецер напеў вольных песняў нямала.**
**І хто быў на зямлі, і хто сёння жыве, —**
**На Купалу глядзіць. Нас вітае Купала.**

**Прыпеў.**

**Мы Айчыны сыны,**
**Мы сябры, грамада.**
**Свой пачэсны пасад зноў любоў адшукала.**
**Хай жыве Беларусь — як агонь, як вада!**
**У адвечнай хадзе Беларусь і Купала.**

**Прыпеў.**

## МАРКА, ПРЫСВЕЧАНАЯ ДНЮ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Міністэрства сувязі Беларусі ўвяло ў абарачэнне паштовую марку, эпрысвечаную Дню незалежнасці краіны.

Як паведамілі ў дзяржаб'яднанні "Белпошта", на філатэлістычнай мініяцюры на фоне карты Беларусі адлюстраваны абеліск Перамогі і словы "3 ліпеня — Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь". Тыраж маркі — 90 тысяч штук, цана — 3 тысячы рублёў. Памятнае гашэнне маркі адбылося на Галоўпаштамце сталіцы 3 ліпеня.

## ЗАЛАТОЕ КОЛЬЦА БЕЛАРУСІ

Магчыма, хутка ў рэспубліцы з'явіцца яшчэ адна свабодная эканамічная зона пад назвай "Залатое кольца Беларусі". Стваральнікам праекта СЭЗ, якая арыентуецца на турызм, нацыянальныя аб'екты гісторыі і культуры, унікальныя прыродныя тэрыторыі, займалася група вучоных сумесна з Беларускай маладзёжнай палатай.

Галоўная яго мэта — прыцягненне ўнутраных і знешніх інвестыцый на аснове рыначных механізмаў для ажыццяўлення гэтай ідэі.

Аціняўшы значнасць праекта, яго ўзялі пад свой патранаж нацыянальны турыстычны канцэрн "Белінтурыст" і шэраг міністэрстваў, якія прынялі рашэнне аб уключэнні праекта "Залатое кольца Беларусі" ў экспазіцыю выставы. Яна адбудзецца ў Гановеры ў 2000 годзе.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 961. Падпісана да друку 7.7.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.